# КРЫНІЦА

№4 Травень, 2009 www.bchd.info





# ВІТАЛЬ РЫМАШЭЎСКІ – КАНДЫДАТ У ПРЭЗІДЭНТЫ АД БХД

**Удзельнікі Нацыянальнай канферэнцыі «Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі», якая прайшла 23 траўня ў Мінску, абралі кандыдатам для ўдзелу ў прэзідэнцкай кампаніі Віталя Рымашэўскага.**

На ролю кандыдата для ўдзела ў прэзідэнцкай кампаніі прэтэндавалі тры чалавекі: сустаршыні БХД **Віталь Рымашэўскі** і **Георгій Дзмітрук**, намеснік кіраўніка Мінскай гарадской арганізацыі БХД **Леанід Скарабагаты.** Шляхам тайнага галасавання перамогу атрымаў Віталь Рымашэўскі: ён атрымаў 68 галасоў дэлегатаў, Георгій Дзмітрук – 25, Леанід Скарабагаты – 8.

Дэлегаты Канфэрэнцыі таксама вызначылі з кім з іншых кандыдатаў Віталь Рымашэўскі павінен дамаўляцца аб узаемнай падтрымцы: Аляксандр Мілінкевіч набраў 46 галасоў, Зянон Пазняк – 24, іншыя – менш за 10.

У інтэрв’ю прэсавай службе «Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі» **Віталь Рымашэўскі** распавёў пра свае бліжэйшыя планы і крокі па іх рэалізацыі.

*– Па-першае, я збіраюся неадкладна прыступіць да перамоваў з іншымі прэтэндэнтамі на ўдзел у прэзідэнцкіх выбарах ад дэмсіл. Перадусім, з блізкімі нам светапоглядна, напрыклад,* ***Аляксандрам Мілінкевічам****, кіраўніцтвам Партыі БНФ і іншымі палітычны-*




*мі сіламі. Трэба вызначыцца з механізмам вылучэння адзінага кандыдата, а таксама супольнай падрыхтоўкі да правядзення Кангрэса праеўрапейскіх сіл.*

*Па-другое, трэба фармаваць передвыбарчыя штабы – і дзеля гэтага будуць скарыстаныя ўсе тыя кампаніі, якія праводзіць зараз Партыя БХД.*

*Наступная рэч. Лічу, што сённяшняя палітычная сітуацыя ў Беларусі і палітыка Еўразвязу, тая ж праграма «Усходняе партнёрства» – гэта шанец, дадзены ўсяму беларускаму народу на мірнае рэфармаванне Беларусі, на дэмакратызацыю краіны. Яго мы павінны скарыстаць. Дзеля гэтага патрэбна сфармуляваць прапановы па зменах у найбольш важных галінах заканадаўства, па практыцы прымянення законаў, а таксама прапановы па супрацы беларускіх уладаў і дэмакратычных сіл у галіне эканомікі, сацыяльнай сферы і г.д.*

*Пры гэтым мы павінны не дапусціць пры ўдзеле ў прэзідэнцкай кампаніі адзінага кандыдата ад дэмсіл легімітызацыі несапраўднага кіраўніка дзяржавы, калі выбары будуць фальсіфікаванымі. І мы гэтага не дапусцім.*

*Ужо зараз, на стадыі падрыхтоўкі да выбарчай кампаніі, а потым і пры правядзенні перадвыбарчай агітацыі, мы павінны рэалізоўваць тыя праекты, якія могуць прынесці адчувальныя змены ў беларускім грамадстве. Напрыклад, праекты дзеля паляпшэння сітуацыі ў галіне правоў чалавека, працяг тых кампаній, якія зараз праводзіць БХД, – «Моцная сям'я – моцная Беларусь», «Люблю Беларусь» і г.д.*

*Сябе разглядаю менавіта як прадстаўніка БХД – незалежна ад таго, ці буду я адзіным кандыдатам і ці пойдзем мы да канца, альбо адзіным кандыдатам ад дэмакратычных сіл стане хтосьці іншы. Я бачу свае функцыі ў прадстаўленні сябраў «Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі» ў гэтых перамовах, пашырэнні распаўсюду ідэй БХД у беларускім грамадстве. БХД патрэбны кандыдат, які будзе прадстаўляць людзей, што падзяляюць ідэі хрысьціянскай дэмакратыі.*



*На фота: Нацыянальная Канфэрэнцыя БХД*





# АБРАЦЬ ЖЫЦЬЦЁ

***«Вось, я сёньня прапанаваў табе жыцьцё і дабро, сьмерць і зло… У сьведкі перад вамі заклікаю сёньня неба і зямлю: жыцьцё і сьмерць прапанаваў я табе, дабраславеньне і пракляцьце. Абяры жыцьцё, каб жыў ты і нашчадкі тваe, любіў Госпада, Бога твайго, слухаў голас Ягоны і прыляпіўся да Яго; бо ў гэтым жыцьцё тваё і даўжыня дзён тваіх, каб быць табе на зямлі…»***

***(Другазаконьне, 30: 15, 19-20)***



Гэтыя словы зь Біблейскай кнігі Другазаконьня як быццам бы напісаныя пра сёньняшнюю Беларусь. Той жа самы выбар – жыцьцё або сьмерць, дабраславеньне ці пракляцьце – стаіць і перад людзьмі, якія жывуць зараз у нашай краіне. Аднак жа выбар нашага народу, як правіла, – не pro-life, не на карысьць жыцьця.

*Толькі факты:*

- *У Беларусі з кожных васьмі зачатых дзяцей нараджаецца толькі трое. Астатнія пяцёра – абартуюцца.*
- *Каля 30% мужчынаў ў той ці іншай ступені хворыя на алькагалізм.*
- *Больш за 70% шлюбаў у нашай краіне распадаюцца.*
- *Кожнае трэцяе дзіця нараджаецца па-за шлюбам.*
- *Штогод, паводле інфармацыі незалежных экспэртаў, у Беларусі абартуецца больш за 100 000 дзяцей.*
- *Паводле нават афіцыйнай статыстыкі (!) за пасьляваенны час у нашай краіне было абартавана каля 8 500 000 дзяцей.*

Чаму людзі паступаюць так? Ніхто ж гвалтам не прымушае быць алкаголікам, ніхто не выносіць няўмольных прысудаў аб абартаваньні дзіцяці. Бог настолькі паважае свабоду чалавека, што даў чалавеку магчымасьць поўнага свабоднага выбару. Але як жа часта гэты выбар становіцца трагічным!

Паводле афіцыйнай статыстыкі, продаж алькагольных напояў ў нашай краіне складае каля 12 л. чыстага алькаголю на душу насельніцтва. Гэта адзін з самых вялікіх паказьнікаў у сьвеце. У 2008 годзе ў Беларусі было зафіксавана 2800 самагубстваў. 60% працэнтаў ад агульнай колькасьці суіцыдаў зьдзейсьнена ў п'яным стане. Паводле колькасьці самагубстваў мы таксама ўваходзім у першую сумную тройку краінаў.

Калі і можна цяпер казаць пра нейкую «стабільнасьць» у Беларусі, дык стабільнасьць вымiраньня. Якраз з 1994 году (хто памятае найноўшую гісторыю, добра ведае, каго і куды абралі ў гэтым годзе) колькасьць беларусаў няўхільна зьніжаецца: народ вымірае. Стабільны дэмаграфічны спад 1994-2008 гадоў скараціў колькасьць беларусаў амаль на 700 000 чалавек. Без вайны і эпідэміяў зьнікла такая колькасьць жыхароў, якая параўнальная з насельніцтвам Берасьця і Гародні разам узятых.

Адказам хрысьціянаў, хрысьціянска-дэмакратычных лідэраў ды актывістаў павінна стаць моцнае, пераможнае супрацьстаяньне гэтай навале. Мы можам рабіць тое, што залежыць ад нас, каб беларусы змаглі абраць жыцьцё і дабраславеньне. Мы мусім рабіць тое, што ў нашых сілах: распавядаць, тлумачыць; распаўсюджваць інфармацыйныя матэрыялы; праводзіць сэмінары, пікеты, маршы; арганізоўваць канцэрты і выставы – для таго, каб зла і няшчасьцяў станавілася менш, а больш было шчасьлівага, паўнацэннага і якаснага жыцьця.

**Кампанія «Моцная сям'я – Моцная Беларусь» – гэта адзін зь неабходных крокаў, якія мы робім у кірунку да новай Беларусі, у якой людзі могуць абраць жыцьцё.**

*Нашы кантакты:*
*(029) 6274916 – Ірына*
*(029) 6512665 – Аляксей*

# БХД БУДЗЕ ДЗЕЙНІЧАЦЬ, НЯГЛЕДЗЯЧЫ НА АДМОВУ Ў РЭГІСТРАЦЫІ



**«Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя» працягне сваю працу. Галоўнае – гэта прызнанне БХД людзьмі, а Мін'юст прыме рашэньне аб рэгістрацыі рана ці позна.**

Як падкрэсліў у каментары прэсавай службе «Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі» сустаршыня БХД **Аляксей Шэін**, рашэнне Мінюсту – неабгрунтаванае і надуманае.

– *Варта адзначыць, што толькі адзінкі з больш тысячнага спісу не змаглі дакладна ўзгадаць колькасьць прысутных на сходах. А пасьля зьезду прайшло больш за два месяцы, на той момант, як іх пачалі апытваць прадстаўнікі Мінюсту і не толькі. Дакладна ўзгадаць лічбу – 27 ці 28 чалавек было на сходзе – праз такі тэрмін для ўсіх немагчыма.*

*Што да подпісаў, ад якіх адмовіліся зноў жа адзінкі. Мы ведаем, што ў краіне была разгорнутая натуральная кампанія запалохваньня. Ідэолягі пагражалі людзям звальненьнем з працы, адабраньнем прыёмных дзяцей. Такіх выпадкаў зафіксавана больш трыццаці.*

*Мы будзем абскарджваць гэтае рашэньне ў Вярхоўным судзе, хаця разумеем малаперспектыўнасць гэтага. У любым выпадку, для нас больш важнае прызнаньне БХД людзьмі – а яно ўжо ёсьць, чым дзяржаўным міністэрствам.*



**Віталь Рымашэўскі:** *Відавочна, рашэньне палітычнае. Я нагадаю, што для рэгістрацыі партыі патрэбная тысяча подпісаў, тысяча заснавальнікаў. У нас было пададзена ў Міністэрства юстыцыі на некалькі дзясяткаў больш. Мы гэта зрабілі адмыслова, бо, канечне, чакалі ціску з боку ўлады і нейкіх рэпрэсіўных дзеяньняў. На сёньня, каля паловы сябраў БХД, якія трапілі ў гэты сьпіс, які быў у Мін'юсьце, у той ці іншай ступені спазналі рэпрэсіі з боку ўладаў альбо праз працу альбо іх выклікалі ў аддзелы ідэалёгіі. Трэба сказаць , што людзі з годнасьцю вытрымалі гэты ціск.*

*Адмовіліся ад пастаўленых подпісаў літаральна некалькі чалавек. На гэтых некалькіх чалавек і дае спасылку Міністэрства юстыцыі. Але зноў нагадваю, гэта ня дваццаць і ня трыццаць чалавек. Усё адно ў нас дастаткова заснавальнікаў, каб палітычная партыя магла быць зарэгістравана. У прынцыпе, гэта чакана, і да тых людзей, якія адмовіліся (мы нават прозьвішчы іх не называем, хаця Міністэрства юстыцыі назвала), мы не выстаўляем ніякіх прэтэнзій.*



*Я ведаю, як цяжка часам было, людзей ставілі перад умовамі -- альбо вы будзеце мець далей працу, альбо у вас будуць сур'ёзныя праблемы. Прычым іх часам не выклікалі на сустрэчы з прадстаўнікамі мін'юсту, а наўпрост выклікалі начальнікі і намякалі, што, калі вы будзеце займацца палітыкай альбо падтрымліваць БХД, то вы ня будзеце мець працу. Прычым размовы часта насілі такі нефармальны, канфідэнцыйны характар. Людзі пасьля са сьлязьмі тэлефанавалі і пыталіся, што рабіць. На гэта мы адказвалі , што мы даем свабоду дзеяньняў, мы з разуменьнем ставімся да тых людзей, якія пад ціскам, (а іх літаральна некалькі чалавек) адмовіліся.*

*Відавочна, што рэальна па закону, каб у нас у Беларусі быў незалежны суд, то гэтае рашэньне Міністэрства юстыцыі, канечне, не было б прызнана законным. Самі разумееце, якія ў нас суды. Мы не мелі ілюзіяў наконт таго, што партыя будзе зарэгістраваная. Мы ведалі, што рыхтуецца адмова ў рэгістрацыі, нічога нечаканага тут не было.*

23 траўня на Нацыянальнай Канфэрэнцыі БХД было прынятае рашэньне абскарджваць пастанову Мін'юсту ў Вярхоўным судзе і рыхтаваць другі зьезд БХД на II палову 2009 г.





# СЕВЯРЫНЕЦ БЯРЭ ЎДЗЕЛ У КАНГРЭСЕ ЕЎРАПЕЙСКАЙ НАРОДНАЙ ПАРТЫІ Ў ВАРШАВЕ

**Акрамя ўдзелу ў Кангрэсе, які распачынае працу сёньня, 29 красавіка, сустаршыня БХД Павал Севярынец сустрэнецца з міністрам замежных справаў Польшчы Радаславам Сікорскім, а таксама намеснікам Міжнароднай камісіі Сейму Польшчы Кшыштафам Лісэкам.**

Севярынец таксама будзе ўдзельнічаць у некалькіх канферэнцыях па беларускаму пытанню.

Чакаецца, што БХД і ЕНП падпішуць партнёрскае пагадненне аб набыцці «Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыяй» статуса назіральніка. Гэты статус надаецца правым партыям з тых краін, што не ўваходзяць у Еўрасаюз.

ЕНП – самая вялікая з еўрапейскіх палітычных партыяў. Яна заснавана ў 1976 годзе, уключае ў сябе ў якасці калектыўных сябраў нацыянальныя хрысьціянска-дэмакратычныя партыі і іншыя на-



цыянальныя партыі з блізкай ідэалогіяй з усяго ЕС.

*Прэсавая служба «Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі»*

# БХД ПАПЯРЭДЖВАЕ: НА АБАРОНУ ЦАРКВЫ «НОВАЕ ЖЫЦЦЁ» ПАЎСТАНУЦЬ СОТНІ ВЕРНІКАЎ




**Відавочна, што апошнія спробы гарадскіх уладаў адабраць будынак у царквы «Новае Жыццё» – гэта выклік усім беларускім хрысціянам.**

*«Царква «Новае Жыццё» была галоўным рухавіком у кампаніі, якая сабрала 50.000 подпісаў за змену заканадаўства аб свабодзе веравызнання. Вернікі вытрымалі 22-дзённы пост-галадоўку, каб адстаяць свой Дом малітвы. Спробы адабраць гэты будынак – гэта ніякая не гаспадарчая спрэчка, гэта палітычнае пытанне. Хтосці ва ўладзе вельмі хоча паказаць «іхнее месца» вернікам-пратэстантам. Кіраўніцтва «Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі» заяўляе, што на абарону царквы «Новае Жыццё», калі ўлады пачнуць нейкія гвалтоўныя дзеянні, будуць мабілізаваныя сотні людзей»*, - так пракаментаваў загад Мінгарвыканкаму па фактычнай экспрапрыяцыі будынка царквы сустаршыня БХД **Павал Севярынец.**

*- Мы заклікаем да салідарнасці з царквой «Новае Жыццё» ўсіх беларусаў.*



Нагадаем, супрацоўнікі ЖКГ атрымалі распараджэнне мінскіх улад прыняць на баланс будынак царквы «Новае Жыццё».

19 траўня да будынка царквы «Новае Жыццё» пад'ехала машына з прадстаўнікамі ЖРЭА Маскоўскага раёна. Камунальнікі атрымалі распараджэнне кіраўніцтва Мінску прыняць на баланс будынак па адрасе вул. Кавалёва, 72 у сувязі з тым, што кошт гэтага будынка ўжо выплачаны царкве «Новае Жыццё».

Юрыст царквы **Сяргей Луканін** растлумачыў, што вернікі «Новага Жыцця» адправілі ў Мінгарвыканкам ліст, у якім заявілі, што будынак не будзе аддавацца мэрыі, абгрунтаваўшы ў лісце сваю пазіцыю, паведамляе партал ***newlife.by***. Таксама Луканін паведаміў, што грошы ў суме 37,5 млн белы. рублёў царква вярнула назад арганізацыі «Мінгармаёмасць», з рахунку якой яны паступілі.

Прадстаўнік ЖРЭА, начальнік аддзела нежылога фонду **Ерафееў В.П.**, паведаміў, што ў адрас царквы выслана ліст з патрабаваннем неадкладна вызваліць будынак. Таксама чыноўнік праінфармаваў, што ў любым выпадку ЖРЭА будзе вымушанае прадпрымаць меры да выканання гэтага распараджэння. Аб якіх мерах ідзе гаворка, ён не растлумачыў.



# ДВУ БОЙ



Вядучая «Двубою»
Ірына ГУБСКАЯ

***Дарагія чытачы!***

***Прапануем Вашай увазе ДВУБОЙ. Кожны нумар газэты два лідэры БХД спрачаюцца па найбольш вострых і важных пытаньнях палітыкі і грамадзкага жыцьця: змаганьне з алькагалізмам і абортамі, стасункі з ЕС, Расеяй, NATO, будаўніцтва АЭС, сьмяротнае пакараньне.***

***Пераможцу вызначыце Вы! Сёньня – трэці чвэрцьфінал.***

***Вы можаце прагаласаваць за ўдзельніка, якога падтрымліваеце, праз тэлефон – +8 029 516 08 61, sms, e-mail: bchd.info@gmail.com, праз сайт: www.bchd.info, ці пошту: 220123, г. Мінск, а/с 324. (Проста пазначце прозвішча – за каго аддаеце Ваш голас).***

***Пераможца ДВУБОЮ па выніках Вашага галасаваньня выходзіць у наступны тур!***

***Таксама прымаюцца заяўкі на ўдзел у ДВУБОІ.***



*У другім чвэрцьфінальным Двубоі, прысвечаным змаганьню за ці супраць будаўніцтва АЭС у Беларусі, перамогу з лікам 121 : 91 атрымаў прыхільнік будаўніцтва АЭС* ***АЛЕСЬ КРУТКІН.***



## Кастусь Жукоўскі: «Беларусь павінна браць адказнасць за Еўропу»

Я – дзвюма рукамі за уступленне ў Еўразвяз. Я – просты працоўны чалавек, і, на мой погляд, уваход у Еўразвяз дасць нам магчымасць жыць па еўрапейскіх стандартах.

Новыя еўрапейскія тэхналогіі ў будаўніцтве, тэхніцы, электроніцы, медыцыне… Эканамічная мадэль, якая вывела такія краіны, як Германія, Францыя, Велікабрытанія, Італія ў склад «Вялікай васмёркі», а астатнія еўрапейскія краіны жывуць таксама далека не так, як Беларусь…

Адносіны чалавека да працы, да іншага чалавека, да дзяржавы, адносіны дзяржавы да чалавека, да яго правоў – гэта далека не ўсе прывілеі жыхароў краін-удзельніц Еўразвязу ў параўнанні з сённяшняй Беларуссю.

Я – просты чалавек, таму мяне мала цікавіць жыццё «багатай вярхушкі» як у Еўразвязе, так і ў Беларусі. Калі б я быў мільянерам, зразумела, маё меркаванне было б крыху іншым. Але, не ведаю на шчасце ці не, я просты чалавек і таму маё меркаванне датычыць у першую чаргу такіх людзей як я.

Як жыве такі працоўны чалавек, як я у Расеі? Ды ніяк. Амаль як бомж. У яго няма працы, якая б магла забяспечыць не проста існаванне, а нармальнае жыццё сям'і. На жыллё трэба працаваць ўсё жыццё, пры гэтым сям'я жыве, падлічваючы кожную капейку… Ці мы хочам такога жыцця для сябе і сваіх дзяцей? А мы пакуль ідзем менавіта ў гэтым кірунку.

Як жыве такі ж працоўны ў Еўропе? Роўна наадварот. Чалавек, які не п'е, хоча працаваць, жыць для сям'і – жыве ў дастатку. Добрая аплочваемая праца дае магчымасць і жыць бязбедна, і добра адпачываць. Беларусу пакуль да такога еўрапейца далека. А хіба мы не хочам жыцця ў дабрабыце, матэрыяльнай забяспечанасці, еўрапейскіх сацыяльных гарантый?

Калі палякі ўступалі ў ЕЗ, многія былі супраць. Я быў у той час у Польшы і добра памятаю той супраціў. Наведаў Польшу пасля таго год праз 10. Меркаванне насельніцтва моцна змянілася за гэты час, і большасць супраціўнікаў змянілі сваё меркаванне і зараз вельмі добра ставяцца да Еўразвязу. Еўразвяз даў ім магчымасць працаваць і адпачываць не толькі ў Польшы, але і далека за яе межамі. Напрыклад у Германіі, Італіі, Францыі… Беларусы ж проста з'ездзіць на выходныя у Парыж ці Рым пакуль дазволіць сабе не могуць.

Але калі закранаць пытаньні веры, культуры і рэлігіі, то тут ёсць праблемы. На вялікі жаль, Еўропа выйшла за ўсе маральныя рамкі. Чамусці хрысціяне павінны хавацца падчас сваіх святаў, каб не пакрыўдзіць астатніх жыхароў, і у той жа час на вуліцах праходзяць гей-парады, якія праводзяцца згодна з правамі ўдзельнікаў. Амаральныя паводзіны для еўрапейцаў – норма. Я лічу, што ў Беларусі такія каштоўнасці не падыходзяць. Беларусь павінна быць краінай з хрысціянскімі каштоўнасцямі.

Што для нас важней – матэрыяльны дабрабыт ці маральныя каштоўнасці – вырашаць нам. Але я лічу, што Беларусь, краіна якая заўсёды несла збаўленне і веру суседнім народам, павінна браць адказнасць за Еўропу. Хто, калі не мы, беларусы, прынясем Божае Слова ў свет, дзе на яго забыліся! Ці не наша пакліканне расказаць свету пра Яго волю? Адказам на гэтае пытанне я лічу нашыя нацыянальныя сімвалы – гімн «Магутны Божа», бела-чырвона-белы сцяг Хрыста і герб «Пагоня», якія разам складаюць трыяду найгалоўнейшых хрысціянскіх паняццяў – Айцец, Сын і Дух Святы.

Увайшоўшы ў Еўразвяз, мы зможам годна распавядаць пра Божае слова на ўсю Еўропу і годна жыць на сваей зямлі, у вольнай дэмакратычнай краіне. Калі раствырыцца як кропля малака у вядры вады – такое сяброўства нам не трэба. Беларусь павінна займаць не проста нейкае крэсла у Еўразьвязе, але мець голас, які годна можа адстойваць не толькі беларускую пазіцыю, але пазіцыю хрысціянскую.



## Артур Мадатаў: «Свабода – гэта не ўседазволенасць»

Пытанне ўступлення Беларусі ў Еўразвяз спрэчнае.

Канешне, прываблiваюць эканамічныя прапановы Еўразвязу, палітычныя вольнасці, сацыяльныя гарантыі… Гэта ўсе добра. Але ніколі не заменіць беларускаму чалавеку волі і веры матэрыяльны дабрабыт. На жаль, Еўропа прамяняла Слова Божае на хлеб надзённы.

Добра бачна, як жыве Еўропа ў Еўразвязе. Ніяк. За прыгожымі дамамі ды вялікімі заробкамі схаваная найвялікшая праблема – маральныя і этычныя каштоўнасці. Дзе яны? А іх якраз і няма. Даўно збіты прыклад Галандыі, якая дамаглася найвышэйшай ступені лібералізацыі. І што? Афіцыйны дазвол аднаполых шлюбаў, прастытуцыі, наркотыкаў, такіх як марыхуана па маім меркаванні вядзе да растлення грамадства.

У Еўропе дабрасумленны хрысціянін, які хоча павіншаваць свайго сябра ці сваяка са святам Нараджэння Хрыста, мусіць напісаць «Віншую з гэтым святам» дзеля таго, каб не пакрыўдзіць грамадзян з іншым веравызнаннем ці наогул якога-небудзь гея-атэіста. Я – хрысціянін, я талерантна стаўлюся да ўсіх кафесій і рэлігій. Але чаму я павінен хаваць свае каштоўнасьці і прынцыпы? Я зусім не супраць таго, каб мусульмане ці габрэі святкавалі свае святы і выконвалі свае абрады і традыцыі – гэта іх права. Дзякуй Богу, у Беларусі такой праблемы пакуль няма – і я цешуся з гэтага.

На мой погляд, змагаючыся за правы кожнага грамадзяніна, Еўропа згубіла маральныя каштоўнасці. Больш таго, еўрапейцы нармальна ставяцца да аднаполых шлюбаў, нават даюць геям дзяцей на выхаванне, і ў той жа час яны баяцца хрысціянаў і іх каштоўнасцяў. Я не хачу бачыць такой Беларусь. Свабода і ўседазволенасць, па-мойму, рэчы розныя. Але шкада, што на сённяшні дзень Еўропа гэтыя два паняцці сумяшчае.

Па маім меркаванні, Беларусь не павінна ўступаць у ЕЗ. Цалкам магчыма і нават перспектыўна выкарыстанне еўрапейскай мадэлі для развіцця Беларусі. Ёсць добры прыклад Нарвегіі ці Швейцарыі. Краіны не ўваходзяць у ЕЗ, але жывуць па еўрапейскай мадэлі. Яны маюць добрыя зносіны з краінамі Еўразвязу, а ўзровень жыцця па нейкіх паказніках нават вышэйшы, чым сярэднееўрапейскі. Да таго ж, краіны цалкам суверэнныя, што дае ім незалежнасць ад агульнаеўрапейскай думкі.

Я лічу, што Беларусь не павінна прамяняць маральнасць і веру на «кавалак каўбасы ды акрайчык хлеба». Прыгожыя дамы ды магчымасць падарожнічаць таксама не бясплатныя. За ўсе трэба плаціць, часцей за ўсё сабой. Беларусь – хрысціянская краіна, са сваімі традыцыямі, гісторыяй і культурай. Мы не можам сабе дазволіць згубіць гэта багацце. Еўропа губляе свае карані і сваю шматгадовую гісторыю – і гэта непазбежны працэс аб'яднання. Толькі захаваўшы сваю хрысціянскую самабытнасць, мы зможам аднавіць Еўропу да новага жыцця. Уваходзячы ў Еўразвяз, мы можам стаць рабамі Еўропы. Ці хочам мы гэтага?

На мой погляд, Беларусь павінна ўключычца ў агульнаеўрапейскую супольнасць, але мець сваю ўласную палітычную, эканамічную, інфармацыйную і маральную платформу, якую можна адстойваць і на постсавецкай, і на еўрапейскай прасторы. І гэтая платформа павінна засноўвацца на маральных хрысціянскіх прынцыпах, дабрасумленным гаспадаранні на сваёй зямлі, дэмакратычнай палітыцы. Некаторыя моманты Еўразвязу ўжо паспяхова рэалізуе. Нам трэба пераймаць добры вопыт. Але жыццёвыя рэаліі сённяшняй Еўропы і яе каштоўнасці – для Беларусі непрымальныя!

# Узаконенае забойства



*Хрысціяне адназначна называюць аборт забойствам. Паводле вучэння ўсіх хрысціянскіх канфесіяў, ужо ў момант зачацця чалавек атрымлівае ад Бога несмяротную душу, і таму ён з'яўляецца жывым стварэннем, якое мае такое ж права на жыццё, як і дарослы чалавек. Паводле хрысціянскага вучэння, толькі Бог можа забраць у чалавека жыццё, дадзенае Ім. Для хрысціянаў, больш доказаў на карысць забароны абортаў непатрэбна. Але паспрабуем паглядзець на гэтую праблему з пункту гледжання агульначалавечай маралі.*

Пра тое, што пры злучэнні мужчынскага сперматазоіда з жаночай яйцаклеткай адбываецца зараджэнне новага жывога арганізма, ведае кожны яшчэ са школьных падручнікаў па біялогіі. Гэты новы арганізм пераймае частку генетычнага коду ад бацькі, частку ад маці. Аднак ён з'яўляецца новай, самастойнай істотай, а не часткай мацярынскага арганізма, бо нясе ў сабе іншы генетычны код. Сучасныя навуковыя даследванні дазваляюць вельмі дакладна назіраць за развіццём дзіцяці да нараджэння. Паўтару тыя звесткі, якія можна знайсці практычна на кожным сайце, прысвечаным змаганню супраць абортаў (У Расеі ўжо ёсць з дзесятак такіх Інтэрнэт-рэсурсаў, Беларусь, на жаль, не мае пакуль ніводнага). Сэрца дзіцёнка пачынае біцца ўжо на 18 дзень пасля зачацця. У пяць з паловай тыдняў дзіцё ўжо рухае галавой, а яшчэ праз тыдзень можа рухаць усім целам. У 10 тыдняў ён ужо мае адбіткі пальцаў. Назваць эмбрыён часткай цела цяжарнай жанчыны нельга, бо ён мае іншы генетычны код, а ў палове выпадкаў – іншы пол. То бок чалавечы эмбрыён – гэта ўжо новы чалавек, які праходзіць фарміраванне, перад тым, як пачаць жыццё па-за ўлонем маці. Калі хтосьці не лічыць чалавечы эмбрыён дзіцём, то гэта з'яўляецца непрызнаннем факту, аб'ектыўна ўстаноўленага навукай. Можна яшчэ сказаць, што да нараджэння чалавек яшчэ не сфарміраваны поўнасцю. Але, калі кіравацца такой логікай, то і нованароджаных дзяцей не трэба лічыць за дзяцей, таму што яны без дапамогі не пражывуць і дня.

...У матку жанчыны ўводзіцца трубка, падключаная да вакуумнай помпы. За некалькі хвілінаў з-за розніцы ціску дзіцё, цалкам або разарванае на часткі, высмоктваецца з улоння жанчыны... Альбо цела дзіцяці разразаюць на часткі адмысловым нажом-кюрэткай, пасля чаго парэшткі дастаюць вонкі. Яшчэ больш жорстка выглядае аборт на другім трыместры цяжарнасці. Урач пры дапамозе шчыпцоў захоплівае частку цела дзіцяці, адрывае яе, пасля бярэцца за іншую. Галава ўжо досыць вялікая, таму, каб яе дастаць, даводзіцца расціснуць яе шчыпцамі, каб пацяклі мазгі. Жудасна? Але ж дзіцё пры гэтым адчувае нясцерпны боль, бо аніякага абязбольвання для яго няма. Яшчэ больш страшнай формай аборта з'яўляецца ўвядзенне канцэнтраванага раствору солі ў плацэнту, у выніку чаго на працягу некалькіх гадзінаў дзіцё памірае ў страшных муках. Калі пасля ў выніку спазмаў маткі альбо звычайнага аборту да-







стаюць мёртвае ўжо цела дзіцяці, то бачна, што скура і ўсе яго слізістыя абалонкі падвергліся хімічнаму апёку.

Такім чынам, ужо задоўга да нараджэння дзіцё пачынае жыць і развівацца. Яно – жывое, яно – дзіцё, яно – чалавек. Таму цалкам лагічна і справядліва лічыць аборт забойствам дзіцяці. З дапамогай ультрагукавых даследванняў можна ўбачыць, што дзіцё спрабуе адсунуцца ад абартыўных інструментаў, у адчаі матляе нагамі і рукамі, пульс падвышаецца да 200 удараў за хвіліну. Калі гэтыя інструменты захопліваюць частку яго цела, рот дзіцяці раскрываецца, нібы ў крыку. «Нямы крык» – так быў названы адзін з першых дакументальных фільмаў, прысвечаных праблеме абортаў. Зараз жа ў Інтэрнэце шмат такіх відэазапісаў, якія зробяць фору многім галівудскім жудзікам.

Ці можна чым-небудзь апраўдаць забойства дзіцяці? Пытанне, можа, крыху дзіўнае, але актуальнае, бо прыхільнікі абортаў прыводзяць вельмі шмат аргументаў на карысць сваіх поглядаў – «свабодны выбар жанчыны», небяспека павелічэння колькасці крымінальных абортаў, матэрыяльныя цяжкасці. Але хіба ўсе гэтыя прычыны могуць быць больш важнымі за жыццё чалавека? Калі жанчына мае, паводле дзяржаўнага закону, права забіць дзіця, то тады, паводле логікі, трэба было б легалізаваць забойствы ўвогуле. Жанчыне перашкодзіць «незапланаванае дзіцё», а мяне, напрыклад, раздражняе сусед-алкаголік. Дык што, мне можа ўзяць забіць таго суседа ды сказаць «гэта маё права», як выказваюцца пра аборты феміністкі.

«Ну забойства, дык забойства, часам бываюць такія жыццёвыя сітуацыі», – кажуць некаторыя. Да







чаго ж мы тады дайшлі, калі выказваем такія погляды? Забіць чалавека – выйсце з нейкай сітуацыі? Калі ж мы, з усведамленнем, што ненароджанае дзіця з'яўляецца дзіцём, апраўдваем яго забойства, то чым мы лепшыя за фашыстаў, якія мэтанакіравана знішчалі габрэяў? За камуністаў, якія паўсюль вынішчалі «ворагаў народа»? Злачынствы камунізму і фашызму таксама рабіліся «у імя лепшай будучыні». Тым, хто падтрымлівае аборты, няма чаго рабіць у Курапатах – бо яны ствараюць у XXI стагоддзі новыя Курапаты, забіваючы тысячамі сваіх дзетак, то бок робяць тое ж, што і НКВДзісты. Але ў Курапатах людзей забівалі чужынцы-чэкісты па загаду з Масквы, дзеля правядзення крывавай палітыкі Сталіна. У Трасцянцы расстрэльвалі фашысты – таксама захопнікі, таксама па загаду свайго правадыра. Мы ж знішчаем не іншы, чужы нам народ, а сваіх уласных дзетак! Да чаго мы дайшлі, беларусы?! Некаторыя апраўдваюць аборт дабром самога дзіцяці – «яго ж не будзе як пракарміць, не будзе ў што апрануць». Аднак агульнавядома, што людзі ў любой цяжкасці трымаюцца за жыццё і стараюцца выжыць. Пазбаўляць чалавека права на жыццё, матывуючы гэта дабром самага чалавека – абсурдна.

Высновы з прачытанага кожны няхай зробіць сам.

*Кастусь Шыталь*





***Дарагія чытачы «Крыніцы»!***

*Сёньня ў нашай рубрыцы мы прадстаўляем праект «ТВАЁ ІМЯ, БЕЛАРУСЬ». У кожным нумары газэты мы будзем друкаваць матар'ялы пра найвелікшых беларусаў і беларусак. Мэта: выбраць Імя Беларусі – асобу, што выяўляе нашу Радзіму найпаўней. Пачынаем мы з Эўфрасіньні Полацкай, беларускай сьвятой. Атрымальнікі нашай паштовай рассылкі пазначылі, пра каго б яны хацелі прачытаць у «Крыніцы»: найбольш галасоў набралі Францішак Скарына (22), Кастусь Каліноўскі (18), Янка Купала (18), Васіль Быкаў (17), Вітаўт (17), Міхал Клеафас Агінскі (16), Максім Багдановіч (15), Уладзімір Караткевіч (14), Леў Сапега (14), Мікалай Радзівіл Чорны (12). Запрашаем і вас удзельнічаць у праекце – дасылаць свае тэксты і меркаваньні.*

***Абярэм Імя Беларусі разам!***

# ЭЎФРАСІНЬНЯ ПОЛАЦКАЯ



Эўфрасіньня Полацкая – увасабленьне самой Беларусі. Зыркая ўспышка Полацка ў абуджэньні XII ст, уява духовага ідэалу й будучыні нацыі. Жанчына-краіна!

Ужо ў 12-гадовым узросьце Эўфрасіньня, спадкаемца Рагнеды, унучка Усяслава, адмовілася ад радасьцяў сьвету, ад багацьця й шлюбу, каб прысьвяціць сябе Богу. Гэтак і Беларусь, будучы яшчэ дзяўчынкай, абрала сабе духовы лёс. Калі ўсё навокал ваявала, кахалася й ненавідзела – Эўфрасіньня пасьціла, каялася й вымольвала ў Госпада прабачэньне для ўсяго народа. Гэтак і Беларусь, сярод сумятні ды жарсьцяў Сярэднявечча цярпела, пакутвала й ахвяравалася за ўсіх і за ўсё, што правальвалася ў пекла. Эўфрасіньня цэлае жыцьцё перапісвала Біблію, перакладала кнігі зь іншых моваў, адчыняла скрыпторыі, вучэльні, багадзельні, храмы... Ці трэба нагадваць, што тое ж самае 1000 гадоў рабіла і Беларусь!...

Эўфрасіньня Полацкая, ігуменьня, міравая судзьдзя ў гарадзкіх справах з найбольшым аўтарытэтам – правобраз суда Божага, які будзе паражаць зло тут, у Беларусі.

Перапісаныя дзякуючы Эўфрасіньні кнігі выхоўвалі дзесяткі пакаленьняў палачанаў. Фундаваная ёю Царква Спаса – шэдэўр беларускага дойлідзтва. Крыж Эўфрасіньні, зроблены Лазарам Богшам, дагэтуль лічыцца галоўнай нацыянальнай рэліквіяй.

Самаадданая, працавітая, моцная Эўфрасіньня Полацкая дала нам Кнігу, збудавала Храм, стварыла Крыж. Бібліятэкі, майстэрні, унікальны цыкль царкоўных сьпеваў XII ст., шанаваньне як сярод праваслаўных, так і ў каталікоў (а такіх пасьля падзелу было няшмат), знакамітае «Жыціе Эўфрасіньні Полацкай» і яшчэ больш 300 кнігаў пра яе, прылічэньне да Сабору сьвятых – вось ён, пасаг Эўфрасіньні, нявесты Хрыстовай!





Само яе жыцьцё сталася нацыянальным канонам праведнасьці.

Нават сышла з гэтага сьвету Эўфрасіньня Полацкая паломніцай. Яе выправа ў Сьвятую Зямлю напрыканцы жыцьця больш за ўсё нагадвае ўзыходжаньне на неба.

Эўфрасіньня Полацкая, самая адукаваная жанчына ў тагачаснай Эўропе, хросная маці цэлага народу, нябёсная заступніца... Усё дзявочае харaство й мацярынская сіла, уся вера й любоў, цяпло і пяшчота, дадзеныя Богам жанчыне, крынічаць у гэтым нястомным клопаце, у гэтым руплівым духовым уладкаваньні Беларусі. Гэта яна, цнатлівая Эўфрасіньня, несла ў сабе хрысьціянскі зародак першае беларускае сталіцы, ужо цяжарнай Франьцішкам Скарынам і Сімяонам Полацкім.

Таму паняцьці «Беларусь», «духовасьць», «нацыянальная ідэя» у нашай мове ня проста жаночага роду. Яны роду Эўфрасіньні Полацкай.

*З кнігі Паўла Севярынца"Люблю Беларусь".*

*Полацк. Спаса – Эўфрасіньнеўскі манастыр.*



## «Шоў Беларушчыны»

Гэта беларуская па форме, хрысьціянская па зьмесьце дынамічная віктарына для школьнікаў і навучэнцаў з геаграфічнымі, гістарычнымі, літаратурнымі, музычнымі, спартовымі пытаньнямі, музычнымі перапынкамі з беларускімі хрысьціянскімі хітамі. Віктарына можа праводзіцца ў любой навучальнай установе як пазакласны ўрок. Пераможцы віктарыны атрымліваюць цудоўныя прызы – кнігі і дыскі. Віктарыну можна замовіць **праз тэлефон: 8-029-7653692 (Ірына)**.

## Нацыянальная кампанія «Моцная сям'я – моцная Беларусь»

Арганізаваная БХД сэрыя акцыяў пройдзе з 1 па 7 чэрвеня. **Далучайцеся! Кантакт: 8029 6512665 (Аляксей)**

## Хрысьціянскі пісьменьніцкі клюб

28 траўня адбылася прэм'ера Аб'яднаньня пісьменьнікаў – хрысьціянаў «Дабравест». Мэта – яднаньне літаратараў-хрысьціянаў дзеля творчага сумоўя ды арганізацыі творчых выступаў, беларускіх па форме, хрысьціянскіх па духу і зьмесьце. **Кантактны тэлефон: 8-029-200-34-36 (Зьміцер).**

## «Беларускі хрысьціянскі хіт»

Да Вялікадня выйшаў чарговы дыск з серыі Беларускі Хрысьціянскі Хіт пад назвай «Хрыстос уваскрос!» – чацьвертая зборка найлепшых беларускамоўных хрысьціянскіх сьпеваў, гэтым разам прысьвечаных сьвяту Уваскрасеньня Хрыстовага. Адабраныя паводле строгіх крытэраў песьні прайшлі ратацыю ў хрысьціянскіх фокус-групах (адпаведна, праваслаўнай, каталіцкай, грэка-каталіцкай, баптысцкай, пяцідзесятніцкай, поўнаэвангельскай – і г.д.) – і вернікі самі вызначылі найлепшыя сьпевы. Найбольш хітовымі выканаўцамі слухачы прызналі гурты «Тэзаўрус», «Псальмяры», «DVA», «Небасхіл», «Кадаш». Сярод выканаўцаў – таксама Алеся Унукоўская, барды Андрэй Мельнікаў, Вальжына Цярэшчанка і й Інэса Леаданская. Пачынаюцца ўсе дыскі «Беларускага Хрысьціянскага Хіта» гімнам «Магутны Божа»; завяршаюцца – сьпеўнай малітвай «Ойча наш». Рыхтуюцца да выданьня таксама іншыя дыскі гэтай сэрыі: «Беларускі Хрысьціянскі Рок», «Бардаўскі Хрысьціянскі Хіт» і «Беларускі Літургічны Сьпеў», «Люблю Беларусь». Наконт усіх прапановаў на гэтыя складанкі, а таксама па замовы першых 3-х дыскаў можна зьвяртацца па тэлефонах: **8-029-861-62-28, 8-029-656-00-64 (Валянціна).**

## Канфэрэнцыя па пытаньнях выкарыстаньня атамнай энэргетыкі

20 чэрвеня пройдзе экалягічная канфэрэнцыя па пытаньнях выкарыстаньня атамнай энэргетыкі у Беларусі. **Кантактны тэлефон 8-029-7653692 (Ірына).**

# ДАПАМАГЧЫ ПАЦЯРПЕЛЫМ АД РЭПРЭСІЯЎ!



*Таццяна Шамбалава з Магілёва*

Апошнія некалькі месяцаў актывісты «Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі» і іншых партыяў і арганізацыяў не могуць атрымаць дапамогі на тое, каб кампенсаваць несправядлівыя штрафы, атрыманыя пасля беззаконых прысудаў.

Таццяна Шамбалава з Магілёва, Вольга Буранкова з Гомеля страцілі вучобу; Кастусь Жукоўскі, Таццяна Севярынец, Сяргей Трыфанаў – працу.

Праваабарончыя арганізацыі, на жаль, не заўсёды могуць даць рады. Таму заснавальнікі БХД адчынілі банкаўскія рахункі ў Мінску і Полацку і заклікаюць беларусаў падтрымаць пацярпелых у змаганні з рэжымам грашыма па меры сваіх магчымасцяў.

«Дарагія беларусы! У нашай краіне – суды несправядлівыя і беззаконне квітнее. У нас вельмі шмат людзей, якія змагаюцца за свабоду і справядлівасць, але пры гэтым вымушаныя жыць пад пагрозай канфіскацыі маёмасці з-за нявыплачаных штрафаў. Мы просім вас ахвяраваць сродкі для гэтых людзей. У некаторых з іх ёсць маленькія дзеці, некаторым пагражаюць высяленнем з жытла», – звярнуўся да неабыякавых людзей сустаршыня Партыі «Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя» Павал Севярынец.

Рэквізіты банкаўскага рахунку:
**ААТ «АСБ «Беларусбанк» аддзяленне № 112 філіяла 529 «Белсувязь», г. Мінск, пр-т Незалежнасці, 91, код 720, субкарэспандэнцкі рахунак 6100007209062, л/с 01051293 Садоўскі Дзяніс Вадзімавіч**

**Незалежнае інфармацыйнае выданьне**
**Заснавальнік і выдавец: цэнтр выдавецкіх ініцыятыў**
**Надрукавана на ксераксе п. М.Кухты Наклад: 299 ас.**
**Галоўны рэдактар: Павал СЕВЯРЫНЕЦ**
**Аб'ём: 12 палосаў А4 Падпісана ў друк 30 траўня 2009**
**Тыражаваньне і распаўсюд усімі зацікаўленымі асобамі дазваляецца і вітаецца.**
**РАСПАЎСЮД БЯСПЛАТНЫ.**